ББК 84Бел7
Ж 86

Рэцэнзент
*Леанід Дайнека*

Васіля Жуковича волнуют духовные и моральные качества человека. Для поэта характерны предельная открытость, обостренное чувство добра и зла, четкость позиции в утверждении жизненных принципов. При тематическом разнообразии сборника в нем доминируют мотивы справедливости, человечности, совести.

Ж $\frac{4702120200-076}{М\ 302(03)-88}$ 47—88



ISBN № 5-340-00047-8




Мяне гадавалі і холад і голад,
але не ўзрасцілі ні злым, ні скупым.
Народ мой — сардэчны і духам не кволы,
і мне аставацца б да скону такім.



## ПРАЎДА

За яе ішлі на плаху
і згаралі на кастрах.
Праўдалюб не ведаў страху —
кат ягоны ведаў страх.



## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Табою, знаю, пагарджалі,
табе знішчэннем пагражалі,
а ты — жыла, а ты — тварыла,
ты свету геніяў дарыла,
о маці-мова! Тваё слова —
паветра для душы жывой,
заўсёды мне, славянка-мова,
такі гаючы гоман твой.
А ты сама — душа народа,
яго краса, яго прырода;
народ, нікім не растаптаны,
праз навальніцы, ураганы
цябе, адвечную, пранёс.
Ты неахопная — як воля,
ты неацэнная — як доля,
ты неад'емная — як лёс.



## МАТУЛІ ГЕРОЯ

На плячах сваіх трымаў бясхмарнасць
сын яе адданасцю сваёй;
пра яго адвагу і ахвярнасць
не кажыце слоў банальных ёй.

— Сыначку! Мая крывінка! Сынку!..—
словы болю — ка́нямі з грудзей:
ад свінца упаў, ляжыць у цынку
сын, сынок, што вырас для людзей.



## БАЕЦ АМАЛЬ ЗАБЫТАЕ ВАЙНЫ

*Ф. Янкоўскаму*

Снег пад Выбаргам быў глыбокі —
на яго пехацінскі рост;
там настаўніку юнаму ўрокі
даў нязвыклы паўночны мароз.

Пасля доўгай бязлітаснай ночы
ля вуголля, паміж валуноў,
маладзенькія бачылі вочы
скарчанелых Радзімы сыноў.

Здраднік-сон забіваў, не вінтоўка...
Хлопец выйшаў з труны ледзяной,
лёс яго адарыў загартоўкай
перад новай, свяшчэннай вайной.



## НА ПАРАДЗЕ

Ідуць, ідуць сівыя ветэраны —
франтавікі былыя, партызаны,—
святочны пачынаецца парад,—
увесь народ героям родным рад.

Ім усцілаем кветкамі дарогу,
і музыка ляціць ва ўсе канцы,
бо здабылі народу перамогу
авеяныя славаю байцы,
бо ўвесь цяжар крывавае вайны
пранеслі пад агнём яны.

Асколкі іх і кулі апякалі.
Не раз яны пасля цяжкіх баёў
у шар зямны
паволі апускалі
у плашч-палатках баявых сяброў.

Калонамі сівыя ветэраны,
франтавікі былыя, партызаны
пад небам распагоджаным ідуць
да помніка на плошчы Перамогі,
туды, дзе скрыжаваліся дарогі,
вянкі салдацкай памяці кладуць.



* * *

Тваёй душы красу,
матуля дарагая,
я па зямлі нясу,
яе аберагаю.

Не заўважаў я сам,
матуля дарагая:
тваёй душы краса
мяне аберагае.



## СЯСТРЫ ВЕРЫ

Глуха (хат у сяле не багата).
Ля дарог парахнеюць крыжы.
І твая тут, сястра мая, хата,
тройчы бусел над ёю кружыў.

Ты пражыць не імкнулася ярка —
у глушы гадавала сыноў:
на нялёгкай рабоце даяркі
цэніш працу, аснову асноў.

Целагрэйка, гумовыя боты,
незаменныя, як і раней.
Малако — белы цуд,
а работа —
зрэшты, ёсць дзе-нідзе і чарней.

Не было і няма вінаватых:
па закону глухога сяла
адпачынкі, нядзелі і святы —
ўсе — калгасная ферма ўзяла.

А твае спрацаваныя рукі
зменіць хто, не адкажуць сыны;
з гарадоў
табе мілых унукаў
зрэдку могуць падкінуць яны.

І дагледзіш, як іх даглядала,—
прыязджалі б вось толькі часцей.
Ты грыбкоў, і варэння, і сала
прыпасла для жаданых гасцей.

Аказаўся і я тваім госцем,
мне твой вобраз усё даражэй,
а ў душы — невыказнае штосьці,
хвалявання сляза — ўсё бліжэй.

Ты даруй, што тужлівыя ноткі
у пісьма, у настрою майго.
Не забуду сустрэчы кароткай,
не забыць развітання таго.

Не па доўгу сястры, не па доўгу
ты была непаўторнай такой:
на дарозе стаяла
і доўга
мне зычліва махала рукой.



* * *

Не глядзіце вы на песню
як на матыля —
з песняй доля уваскрэсне,
расцвіце зямля;

песня добры клопат мае,
песня не ляжыць —
песня кліча, узнімае,
памагае жыць.



## ЯРАСЛАЎ ЕЎДАКІМАЎ

Шуміць Парыж, гудзе Парыж вячэрні,
пяюць, танцуюць фарбы і святло.
А памяць раптам возьме і паверне
у роднае далёкае сяло.

...Таполі спяць, вакол бялеюць хаты,
так хораша, так свежа на сяле!
Бліпічаць за хатаю ў зялёных шатах
антонаўкі пры месячным святле.

Там цішыня, ды некалі рытмічна
метал у кузні дзедавай спяваў:
ты цяжкім молатам каваў прывычна —
у дзеда браць урокі паспяваў.

Не ласка, не раскоша гадавала...
Але пасляваеннае сяло
дабром і прыгажосцю чаравала,
ад зла цябе для свету зберагло.

Зачараваны, сам цяпер чаруеш,
не лёсу балаўнік ты — працаўнік:
не славай упіваешся — шчыруеш,
душой да песні шчырае прынік.

Не сябраваў ніколі з таннай модай,
на сцэне не крыўляешся — пяеш;
выходзіць нехта з музаю з народа,
а ты ў народ, а ты ў народ ідзеш.



* * *

Адвеку мне свет хараства дарагі быў,
прыгожых людзей сустракаў я заўжды.
Мяне не зламалі гады перагібаў,
душу не ссушылі застою гады.

Мяне гадавалі і холад і голад,
але не ўзрасцілі ні злым, ні скупым.
Народ мой — сардэчны і духам не кволы,
і мне заставацца б да скону такім.



## НАСТАЧКА

Погляд —радасны,
словы — ветлыя,
сэрца — чуйнае,
душа — светлая,

як крынічанька,
ўся празрыстая
і адкрытая,
чыстым-чыстая.

Творыш век дабро —
і не зморана —
для дабра, святла
ты і створана.

Вочы — ясныя,
пасмы — русыя.
Век цвіці, краса
беларуская!

Ты не зведай зла,
Наста-Настачка,
беражы сваё
шчасце-шчасцечка.



## НАРАДЖЭННЕ

Ад шчасця к шчасцю йшла яна праз мукі;
о як цяпер ёй сілы нестае!
Ды просяцца насустрач крылы-рукі:
ўзышло дзіця
з любві, з жыцця яе!



## КАЛЫХАНКА СЫНУ

Ахінае сцежкі ночка,
дрэмлюць дрэвы і кусты.
Мой сыночак, мой званочак,
засынай хутчэй і ты!

У дарослых ёсць дарогі,
многа пройдзеных дарог,
ёсць у нас свае трывогі,
у цябе няма трывог.

На планеце гора многа:
дзеці гінуць у агні,
ты ж не ведаеш нічога,
спі, маленькі мой, засні.

Падрасцеш, сынок, і будзеш
мір ахоўваць на зямлі,
каб спакойна спалі людзі,
каб шчаслівымі былі.

Пабягуць гады-гадочкі,
не заўважыш ты і сам.
Спіце, ручкі, спіце, вочкі,
я вайне вас не аддам.

Ахінула сцежкі ночка,
дрэмлюць дрэвы і кусты.
Спі, сыночак, мой званочак,
сілы набірайся ты.



## ПЕРШЫ КАСМАНАЎТ

Калі Гагарын узлятаў,
ён — перад трасаю касмічнай —
сваё «паехалі!» сказаў,
нібы перад дарогай звычнай.

Ляцеў Гагарын над Зямлёй —
здалося неба ў дзень вясенні
яму
 ўзаранаю раллёй,
а зоркі — залатым насеннем.

Планета родная
 яму
малой здалася,—
 так другі раз
матуля бачыцца
 свайму
сынку, што памужнеў і вырас.



* * *

Люблю цябе, дарога палявая,
калі над жытам жаўранак спявае,
калі з табой гамоняць каласы,
калі змаўкаюць птушак галасы.

Люблю цябе, дарога палявая,
калі самотна ў небе праплывае
ў далёкі вырай жураўліны клін,
калі шугае полымя калін.

Люблю цябе, дарога палявая,
як над табою хмар гурма сівая
праносіцца, прыносіць халады
і замятае свежыя сляды.

Тут размаўляю моўчкі з родным краем,
тут маіх дум ніхто не разбурае;
дарога светлая, на мілую зямлю
вядзеш,
таму заўжды цябе люблю.



## ВЁСКА РАДАСЦЬ

Гэтай назвы не шукалі —
нарадзілася ў народзе:
вёску Радасцю назвалі
ў дзевятнаццатым стагоддзі.

Пагалоскаю натхнёнай
гарады жылі і вёскі:
следам за Напалеонам
уцякаюць яго войскі...

З адмысловай навіною
людзі вёску заснавалі;
каб не зналася з вайною,
Радасцю яе назвалі.

Вёска Радасць пражывае
у пушчанскім ціхім краі.
Рэчка там цячэ Лясная,
бэз ажно бушуе ў маі,

ночы буйна травы росяць;
радасці ў людзей — багата,
бо дзяцей там бусел носіць,
не міне ніводнай хаты.



## СУЧАСНЫ СЮЖЭТ

Над сваёй старонкай роднай
лётаў бусел дзень, другі,
а не ўбачыў аніводнай
саламянае страхі.

Кажа ён сваёй каханай:
— Дарагая, што рабіць?
На страсе несаламянай
небяспечна будзе жыць.

Па-над вёскамі бусліха
палятала дзень, другі
і буслу сказала ціха:
— Не хвалюйся, дарагі.

Наваселле акуратна
справім гэтаю вясной:
на слупу на тэлеграфным
мы паселімся з табой;

мы збудуем дом бусліны
там, дзе добра ўсё відно,
і апошнія навіны
будзем слухаць заадно.

Кажуць, весела на вёсцы
зажыла сям'я буслоў.
А ў харошай прагалосцы
не бывае лішніх слоў.



## ВЕЧАРОВЫ ЭСКІЗ

Зямлі-красуні сонца дасягае,
сціх вецер, і далёка халады;
паказваецца месяц па-над гаем,
ён бледны, як раўнівец малады.



## СТАРАДАЎНЯЯ ПЕСНЯ

— Тата, татачка,
дзе наша мамачка?
— Ваша мамачка
умываецца,
з казаком гуляць
сабіраецца.
— Не лжы, татачка,
не лжы, родненькі:
наша мамачка
у рацэ на дне.
— Не плачце, дзетачкі,
не плачце, родныя,
я збудую вам
хату новую,
пасаджу я вам
сад зялёненькі,
прывяду я вам
маладую маці.
— Ой, згары, згары,
хата новая!
Ой, завянь, завянь,
сад зялёненькі!
Ой, памры, памры,
маладая маці,
ой, устань, устань,
наша родная!



## ПАМЯЦІ ІВАНА БОГДАНА

Суседзе мой! Глыбокі твой начлег,
яго засыпаў белы лёгкі снег,

яго знайшоў па свежых я слядах.
Застылых кветак хіляцца галоўкі...
А тваім дзецям бачыцца у снах,
што прыязджаеш ты з камандзіроўкі...

Куток твой ціхі: кветкі ды вянкі.
Ні горада, ні вёскі, ні дарогі.
А на работу ўсё ідуць званкі:
тваёй шукаюць людзі дапамогі.

Глыбокі сон, глыбокі твой спакой.
Але аднойчы, неяк перад святам,
прыйшла яшчэ паштоўка, у якой
табе гадоў жадаюць жыць багата...

Суседзе мой! Бясконцы твой начлег.
Бялюткім пухам лёг
і затрымаўся
снег.



## БРАТУ КОЛЮ

Сумаваць па табе пачынаю,—
слухай шчырую ліру маю,
брат старэйшы,— я ўсё ўспамінаю
нашу колішнюю сям'ю.

Пракаціўся ваенны агніска.
Елі мы крапіву з лебядой
з аднае уцалелае міскі,—
не лічылася беднасць бядой.

Мы тады святкавалі так мала,
але весела гэтак было:
пад баян твой сяло танцавала!
Раз'язджалася потым сяло...

Сёстры замужам.
Ціха аселі
у сталіцах твае браты.
Нібы птахі з гнязда, паляцелі
ўсе мы з дому.
Адзін толькі ты

не пакінуў кутка дарагога,
хату зладзіў і сад пасадзіў,
працаваў,
не нажыў ты нічога
і для свету дзяцей узрасціў.

Да мяне завітаеш? Не веру!
Як жа ў цуд я паверу такі,
калі твой несупынны канвеер —
сена, бульбачка, буракі...

Разумею і крыўды не маю;
я і сам шмат чаго абяцаю,
напісаць абяцаю раман
пра людзей самабытнага краю,
пра цябе, браце мой, ветэран.

Не магу, не магу пахваліцца,
што з зямлёй моцна звязаны я,
ад яе адарвала сталіца —
вечна клопаты: праца, сям'я...

Толькі ўсё ж ні вясною, ні ўвосень
не адчую сябе я чужым
у старонцы, дзе ў засені сосен
наша родная мама ляжыць.



## МАМІНА ДАРОГА

У трынаццаць гадоў ад бацькоўскае хаты
на усход цябе царская гнала вайна.
Аказалася ў лёсе дарога адна —
апроч бежанства болей нідзе не была ты.

Лёг на плечы цяжар белапольскай нявolі.
Аднастайна рыпеў і нястачамі рос
несупынны
тваіх вечных клопатаў воз:
жорны — печ — хлевушок —
камяністае поле.

Стала дыхаць лягчэй людзям беднага краю,
як з усходу браты нам руку падалі.
Ды з-за Буга фашысцкія орды прыйшлі,
засявалі касцямі зямлю злыя зграі.

Горкіх слёз праліла ты, матулечка, многа.
Слёзы радасці? Раз толькі ззялі яны,
калі сын твой старэйшы вярнуўся з вайны:
«Мама, я не адзін — я прыйшоў
з перамогай!»



## ХВІЛІНАЮ АДЧАЮ

Не кліч, мая мама, мяне:
яшчэ на зямлі я патрэбен,
яшчэ й журавель мой у небе;
не кліч мяне мама, у сне.

Што суджана мне на вяку,
хачу ўсё аддаць майму краю.
І сам я цябе пагукаю...
Не кліч мяне, мама, пакуль.



## ПЛАЧ ПА САМАНЦЕ СМІТ

Была са святла ты, Саманта:
усмешка — як сонейка ўсход;
не ведала, пэўна, сама ты,
як ты ўвасабляла народ,—
так прагнула праўды святое
ў світальныя годы свае,
Саманта, дзіця залатое,
душой спасцігала яе.
Ты шчырасці зычыла Штатам,
ты міру жадала Зямлі,
Саманта, у плоці саната,—
да сэрцаў дарогі вялі.
Рабіўся далёкі свет блізкім,
і радасць іграла ў вачах.
Ды шлях да труны ад калыскі —
кароткі — да жудасці! — шлях.
Адводзіць Амерыка вочы:
ў чарзе прыбытковых турбот
не знае ці знаць і не хоча,
ўзарваўся чаму самалёт.
Але галасы на паверцы,
святло прыбаўляе святла.
Няма цябе — журыцца сэрца
і ўзрушана б'ецца: была!




Не дзеля рапарту, не дзеля ордэна
добрыя дзеі свае паскарай,—
хай маладзее
старонка родная,
хай багацее
любімы край.



* * *

О пара крыгалому
і вяртання буслоў,
і жаданага грому,
і нязмушаных слоў!

Ты — пара абнаўлення
і зямлі, і душы.
Кіне сонца праменняў —
і звіняць ледзяшы.

Свет прабуджана мілы
павышэў, паяснеў.
Прызабытыя крылы
узнімаюць мяне.



* * *

У вочы пралескам глядзеў я нядоўга спакойна:
падумаў не толькі пра зоркі,
а й «зорныя войны»;

згадаўся міжволі жахлівы той жнівеньскі
ранак,
патоплены ў моры агню і ў агні пахаваны;

прынёс ён пякельныя раны, пакуты японцам,—
грыб чорнага дыму пачварна ўзнімаўся
да сонца.

Не раз бачыў я на экране трагедыю гэту,
пра «зорныя войны» з трывогай чытаў
у газетах.

І прывід сусветнай бяды паўстае нада мною,
над марай маёй, над вясной, над красою
зямною.

Пакуль на планеце драпежныя гойсаюць войны,
у вочы пралескам глядзець не магу
я спакойна.



* * *

Пачуеш, юны дружа, выпадкова
ты пра заакіянскі рай —
прыцэльнае чужое слова
нявопытнай душою не ўбірай.

Хай позірк твой удумліва іскрыцца,—
разваж, мой юны друг і брат:
чым можа і ці можа пахваліцца
той, хто нутром сваім — пірат?..

Ты ганарыся: твой народ ніколі
не панаваў і рабства не цярпеў,
ён і цябе пазбавіў ад няволі,
ад клопату не вызваліў цябе.

Табе на долю слаўны серп і молат,
як спадчыну, ўручае твой народ,
ён з гэтым скарбам цемру змог і голад
і разграміў фашысцкі люты зброд.

Табе ахоўваць верна гэты сімвал
супольнасці і працы на зямлі.
Наш серп і молат — велічная сіла,
мы з ім і ў космас першымі ўзышлі.



## МЕТАМАРФОЗА

Баян чаканіў польку лоўка,
сыходзілі танцоры потам;
курортнікі вакол пляцоўкі
тырчалі непралазным плотам.

Азартна там хадзіла ў скокі
жанчына: шчокі — колер макаў...
А на сцяжынцы, адзінокі,
яе сынок маленькі плакаў.

Час, як ты хутка, як старанна
усё ў жыцці пераіначыў:
гуляе сын па рэстаранах,
а дома горка маці плача.



## ДЗЯРЖАВА-МАТУХНА ТРЫВАЕ...

Ляціць шыкоўная машына.
Куды фарсіста так імкне?
Як тармазне — дымяцца шыны,
смуродам густа патыхне.

На ёй нахабнага кагосьці
вязуць да цешчы на блінцы,
яго, што з форсам едзе ў госці,
вязуць бясплатна ў два канцы.

Ў яго — дзяржаўная машына,
куды рукой махне — ляціць,
гарацць бензін, запчасткі, шыны —
душа нікольні не баліць.

Высока пыха нос трымае,
і кашальком у пыхі рот.
Дзяржава-матухна трывае,
дзяржава — значыць і народ.



## З НАШЫМ НАРОДАМ

З нашым народам
і бяда — паўбяды,
трэба — і сэрцам растопіць ільды,
горы высокія зрушыць,
дзікую сілу прыручыць,
раду ён дасць усяму,
ён узнімецца і над скрухай,
толькі праўду кажы яму,
толькі праўду ягоную слухай!

Самаахвярнасці ён не баіцца,
з нечысцю біцца — дык біцца!
Пойдзе ў агонь і крутыя віры,
пройдзе, не ўпáдзе духам,
толькі праўду яму гавары,
толькі праўду
наперад
рухай!



* * *

Глыбокіх язваў прабадзенне
ці спыніш ты, дваццаты век?
Неверагоднае падзенне
перажывае чалавек.

...Жыве дзябёлы, загарэлы
сын, ён ад клопатаў адвык,
а бацька ў доме састарэлых,
вайны вялікай франтавік.

...«Чарніла» п'е былая маці,
дзіця ў дзіцячы дом здала,
яна імя свайго дзіцяці
не ўспомніць — розум прапіла.

Дзе корань зла? У чым прычына
падзення? Скуль ідзе яно?
...За джынсы модныя дзяўчыну
купілі прыхадні на ноч.

Як гэта розумам цвярозым
прыняць, як сэрцам перажыць?
Няўжо сумленне пад наркозам?!
Ці ж можна жыць  як набяжыць!

Ты скажаш, век, што нетыпова
згушчаю фарбы... Што ж, кажы,
Але маё запомні слова,
не слова — крык маёй душы.



## ДАРОЖНЫ ДЫЯЛОГ

— У горадзе нядаўна
папаўся казнакрад,
кішэнь сваю з дзяржаўнай
ён блытаў...
— Вось дык гад!

— Ударыў я сатырай
зладзюгу па руках,
чытаў — хвалілі шчыра
за полымя ў радках.

— А ці прыняў рэдактар?
— «Такіх не трэба нам,—
сказаў,— не той характар...»
— Дык хто ж тады ён сам?



## ПРА САМАЗВАНЫХ КЛАСІКАЎ

Там цішком, а там — адкрыта,
прагна (з візамі, без віз)
нехта пхнецца да карыта,
«дайце!» — вось яго дэвіз.

— Дайце,— просіць зухавата,—
мне пасаду чым вышэй...
Дайце... званне лаўрэата,
стану я вады цішэй.

Зрэдку нават гэтак вее:
— Ці ж не бачыце, пара —
ўся душа мая сівее —
дайце званне песняра...

Так і ходзяць яны кругам,
ухмыляючыся ўсім.
Не зайздрошчу іх патугам —
жыць таксама цяжка ім.



## ПІМЕНУ ПАНЧАНКУ

Вы, Пімен Емяльянавіч,
мне не зямляк — маяк.
Я, знаючы што́ пішацца,
скажу, жывецца як.

Наіўны, думаў некалі:
жыццё н а р о д н ы м — рай...
Вастрэе ваш адвечны боль
за гераічны край,

за ўсё, усё прыгожае,
за ўсё, што не ў брані,—
зямнога і духоўнага
ірвуцца карані;

трывогаю хранічнаю
стаў міру, свету лёс.
Вы шчырасцю гранічнаю
хвалюеце да слёз.

У ачышчальным полымі
паэзіі кастроў
гарыць прагрэс чыноўніцкі,
свет гадаў, махляроў.

Жывецца ой нялёгка вам,
пясняр-баец, змагар!

Баліць душа народная,—
вялікі, рэдкі дар.

Хай жыта не развучыцца
жывіць душу, лячыць,
зязюлька не скупіцца хай
гадоў вам налічыць.



## НОВЫ ДЗЕНЬ ПАЧЫНАЕЦЦА

Як пасвятлела ў нашых хатах!
Дыхнула свежасцю кругом.
Няўтульна стала бюракратам
пад чыстай праўды скразняком.

Няўтульна, неспакойна стала
зазнайкам, п'яніцам, ханжам,
і прабівалам-даставалам,
і ўсякай масці хапунам.

Яны сваёй душой іржавай
не снілі гэткае вясны,
пад сцягам Леніна дзяржаву
гатовы разваліць яны.

Як светла стала ў нашых хатах!
Выходзіць праўда на прастор,
усякай нечысці праклятай
яна абвесціць прыгавор.



## КЛІЧ

Зло шматавокім узброена зрокам,
слых, разумеецца, востры у зла.
Зло і паўзе, і ўзлятае высока,
цемру вітае, баіцца святла.

Злу аб'явілі бязлітасны бой мы.
Праўда святая — надзейны трубач,
праўда суровая — нашы абоймы,
ў небе — зары палымянай кумач.

Радуе свежасцю вецер світальны,
кліча, вядзе маладая зара.
Будзь ваяўнічаю, будзь наступальнай,
непераможная сіла дабра!



## ПРЫЗНАННЕ

Жывецца лірыку найгорай,
калі ён змушаны глушыць
балючы крык сваёй душы
глухім цяжарам алегорый.

І я з характарам лірычным
знаў драму гэту, сам не свой,
і, праклінаючы застой,
асвойваў шлях алегарычны.

Сказаць у байках многа можна
і я казаў, ды не сакрэт,
што іх прасейвалі як след,
у свет пускалі асцярожна.

Шчаслівы я — скажу ўсім шчыра,—
дажыў да лепшага жыцця:
хаваць не трэба пачуцця,
гучы на поўны голас, ліра!



## ДОЎГАЧАКАНАЯ ПАРА

Успамінаю кожны раз
з гаркотай
той марудны час
банкетаў пышных, трафарэтаў,
і словаблуддзя, і маны,—
дзялкоў пладзіў ён,
прайдзісветаў,
а пранікалі скрозь яны,

бо прайдзісветы і дзялкі
ішлі да мэты напраскі
і чорным ходам, як вядома
(ці ўсё пра іх вядома нам?),—
чыны куплялі і дыпломы,
і «крэслы» дочкам і сынам...

Жылі — як рыбка у вадзе,
мяжы не ведалі
нідзе,
яны ні ў чым не знаді меры:
хоць мелі доўгія рублі,
пуцёўкі, прэміі, кватэры —
ўсё да сябе яныграблі.

Сумненне ўдарыла ў званы.
Куды схаваліся яны,
дзялкі, хапугі, прайдзісветы?

Цяпер трывожныя ў іх дні,
бо аддаляюцца іх мэты;
не ўсе яны ўжо на кані...

Яшчэ хто галавой прынік?
Той, хто лісліва жыць прывык,
прывык хавацца за цытаты,
з трыбуны шчодра ліць ялей,
а на банкеце зухавата
чарговы славіць юбілей.

Прыйшла яна, пара збавення,
не пахавання — ўваскрашэння,
не прыслугоўвання — служэння
доўгачаканая пара,
пара выгнання з кабінетаў
усіх дзялкоў і прайдзісветаў,
пара высакароднай мэты
і непадкупнага пяра.



* * *

Каму трывога, каму — збавенне:
ідзе сумленне!

З дарогі зносіць лухты бярвенне —
вядзе сумленне.

А паўз дарогі — мяшчан гудзенне.
Не спіць сумленне;

не ў святах пышных яго сталенне,
а ў наступленні!



* * *

Пра тое думаў я не раз,
што на зямлі і ў вышыні касмічнай
далей зайшлі б мы з працай гераічнай,
каб не казалі легкапышных фраз,
каб не ляпілі планаў утапічных.



## ВАШ КРЫЗІС

Буйнамаштабныя рвачы!
Вы гаспадарку развалілі.
Усё вакол сябе рвучы,
прамовы гладка гаварылі.

Халаднакроўныя рвачы
і тэарэтыкі маралі,
вы, без маралі жывучы,
яе навокал падрывалі.

Вы заваёўвалі прастору
рублём, усмешкай, плечуком,
грахі змывалі ў Чорным моры
і ў фінскіх лазнях (з каньячком!).

А на паперы, на паперы
народа слугамі былі.
Працоўны люд пярэдка верыў
вам, махінацый каралі.

Над вамі грымнуў Дваццаць Сёмы.
Народ рашуча рэйд вядзе.
Усіх рвачоў канец вядомы:
устаць! Адкрыты суд ідзе.



## БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ

Мірны прыручаны атам,
што́ ты прынёс
нашым нівам і хатам,
сэрцам, і душам, і нервам людскім!
Тут акрыяць давядзецца не ўсім:
сэрцамі, кроўю тушылі пажар,
каб не забраў неаглядны абшар.

Мірны прыручаны атам,
гэта не ты вінаваты,
не ты —
стыль вінаваты, асуджаны стыль,
ён даў Чарнобыля чорную быль.



## НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗОНА

Асірацелі сцяжынкі, двары,
вокны паслеплі, паглухнулі дзверы.
Дзе вы, палескія гаспадары?
Вунь вас чакаюць антонаўкі, бэры.

Што ім, садам, зелянеюць сады,
як і раней, квітнеюць вазоны...
Людзі не вернуцца болей сюды:
тут — небяспечная зона!

Рэштка жыцця на падворках пустых —
куры галодныя і кураняты,
з ганкаў ніхто не пакліча ўжо іх,—
тут не адчыняцца хаты.

Як і куды, небяспека, ідзеш?
Дзе ты замрэш, за якім кіламетрам?
Што ты з сабой нам сягоння нясеш,
подых паўднёвага цёплага ветру?

Хто гэта мог бы падумаць калі,
што пад ласкавай сінечаю неба
ўзнікнуць на нашай ранімай зямлі
могілкі вернай карміцелькі-глебы?!



* * *

Я заўсёды любіў цішыню —
палявую, лясную, азёрную,—
узнімала яна ў вышыню
позірк мой, у прастору зорную.

Караблі маіх думак плылі,
і трымаўся я Шляху Млечнага,
зычыў я непаўторнай Зямлі
у Сусвеце працягу вечнага.

Верыў богу заўжды аднаму —
чалавечаму добраму генію,
верыў я: за адкрыцці яму
не расплочвацца жыццямі, генамі.

Праляцелі бяспечныя дні,
а ні гукаў ад іх, ні водбліскаў.
Я цяпер у любой цішыні
чую рэха бяды чарнобыльскай.

І ваўкоў далятае выццё,
не з лясоў далятае, не з хвойнікаў —
з вёсак тых, дзе кіпела жыццё
недалёка ад Брагіна, Хойнікаў.

Болю мне цішыня прыдае —
палявая, лясная, азёрная.
Не магу я пазбегнуць яе,
я са скрухай гляджу ў неба чорнае.



## ПЕРАБУДОВА, ПАСКАРЭННЕ

Мы справу маем
з грамадзянскай
псіхалагічнаю вайной.
Мацнее дух антымяшчанскі,
ваюе праўды свет з маной.

У барацьбе усенароднай
непрымірымыя бакі:
там — подласць, тут — высакароднасць,
тут — людзі, там — хлусы, дзялкі,
там — нізасць, тут — людская годнасць.



## ПРАБЛЕМА?

Выбухнула вайна —
знойдуцца і салдаты...
Лёгка злавіць несуна,
цяжка злавіць казнакрада.

Цяжка? Дык грош нам цана!
Зброю бярыце, салдаты!
Лёгка судзіць несуна.
Будзем судзіць казнакрада.



## ПРЫСТАСАВАНЦЫ

Не думаю, што іх мільёны,
а можа і мільёны іх,
гаваруноў-хамелеонаў,
глухіх да клопатаў людскіх.

Ім, платным носьбітам руціны
і папяровых завірух,
пляваць на боль, на лёс Айчыны,
на творчасці высокі дух;

наўме адно — прыстасавацца
да новых спраў, да перамен,
каб болей браць, прытым старацца
не даць нічога узамен.



* * *

Колькі доўжыцца род,
прыкмячае народ:
«На губах мёд,
а на сэрцы лёд».

Бачыў мудры народ
многа розных парод:
«У вочы з мілым тварам,
а за вочы крутым варам»;
«Лістом сцелецца,
а ўкусіць так і цэліцца»;
«З адным вась-вась,
а другога пхне ў гразь».

Асуджае народ
не на дзень, не на год:
«У хітрага бога
халуёў многа».



## НЯДАЎНЯЯ ГІСТОРЫЯ

Жыў-быў хапуга-бюракрат,
ён міністэрскі меў аклад,
быў забяспечан прэмій кучай,
ну а для дзейнасці кіпучай —
машынамі ажно трыма.
Не, ён у крэсле не драмаў,
а сувязь з базамі трымаў
(о, быў да імпартнага падкі!),
мяняў кватэры, як пальчаткі,—
меў шмат выгод ад круглае пячаткі.
Яго вагі, залішняй ад камфорту,
зняць не маглі паўднёвыя курорты.
Жыў прайдзісвет, грэў, гладзіў пуза,
знаў рэстараны цэлага Саюза.
Любіў і свой ён кабінет,
там лакам зіхацеў паркет,
стаяў, вядома, стол дубовы,
а на сцяне вісеў партрэт:
дрымучыя, густыя бровы
і аж пяць зорак на грудзях,
над крэслам ён вісеў, як сцяг,
вісеў — бы крылы за плячыма,
таму прайдоха
ад людзей
адгарадзіўся аж трыма дзвярыма.
Адно не мог схавацца ад падзей.
Калі дыхнуў скразняк перабудовы,

Ўзяў слова ён, хапуга-бюракрат,
і палымяную пачаў прамову,—
з самакрытычнасці яго
здзівіўся штат:
— Таварышы! Мы загубілі справу!
Перабудову трэба пашыраць!..
А тут — і выбары, а тут і права
ўжо не фармальна выбіраць.
І атрымалі людзі перамогу:
з пасады
шэфа штат сапхнуў.
Хоць кара мяккая, ды, дзякуй богу,
да персанальнай ён не дацягнуў.



# СВАЕ СУЧАСНЫЯ ВАНДАЛЫ

Ідуць, бяду нясуць вандалы.
Што трэба ворагам маім?
А ім, аказваецца, мала
прасторы, ежы мала ім.

Пятляе рэчка.
— Хто дазволіў
неэканомна так пятляць?!
Паўстала дзічка з краю поля.
— Хто ёй дазволіў цень кідаць?!

Ідуць вандалы, як з параду.
А ля дарогі — курганы.
— Што тут яшчэ за непарадак?! —
зноў абураюцца яны.

— Чакайце, тут жа знак ахоўны!
Тут продкаў прах, дрыгавічоў...
Штó знак вандалам бездухоўным!
Што ім да нейкіх там ахоў!

Штó да мінулага краіны,
народа памяці жывой?!
— Зрабіць бульдозерам раўніну!
Пакончыць з даўнінай сівой!

Яны пакончаць. Кончаць крамай.
Надзейна рапарты здадуць,
там пад харчовую праграму
свае злоўчынкі падвядуць.



* * *

Чорны воран, воран чорны
не прысніся мне ўначы,
ты настрой даеш мінорны,
супакойся, памаўчы.

Ты мне ў добрую пагоду
нагадаў пару нягод:
даўся ў знакі ён народу,
трыццаць сёмы страшны год.



* * *

Успамінаю з болем, брат,
час культаўскі, атруты поўны,—
у сорак сёмым быў загад
сілком паслаць цябе на поўнач.

Не клімат поўначы пужаў
і не работа да знямогі
цябе, байца, што набліжаў
нядаўна шчасце Перамогі,—

смылела думка: як адну
матулю хворую пакінуць?
Яна малілася ў вайну,
каб бог не даў табе загінуць...

Ты, непакорны, малады,
насілле асудзіў —
тады
я г о судом цябе каралі:
пайшлі тры доўгія гады
ў Хабараўскім суровым краі.

Ад скаргаў прападаў і след.
Масква маўчала.
І ты, як цэлы белы свет,
не знаў, што гэта азначала.



## ЗАСЦЯРОГА

Будзьце відушчымі, вернасць, любоў.
Людзі, выходзьце з туманаў,
перамагайце ў сабе рабоў,—
пэўна, не стане тыранаў.



## БАЦЬКУ

Ты дбайны быў цесля і дбайны араты,
зайздроснікаў меў, чымсьці ім замінаў;
цябе ачарніла, штурхнула за краты
у вопратцы праўды пачвара-мана.

Былы твой сусед быў вядомы ўсім злодзей,
чужымі рукамі тапіў цябе ён:
хлусоў і дзялкоў ён у час пазнаходзіў —
і лёгка хлусню падвялі пад закон.

Якой, бацька, мерай віну маю змерань?
Сівею ў глыбокай-глыбокай журбе:
як мог я паклёпнікам чорным паверыць
і столькі гадоў сумнявацца ў табе?!



* * *

Цябе судзілі, бацька, без суда,
прынамсі, без суддзі і адваката,
смалою ліпла брудная бяда,—
так, без віны прызналі вінаватым.

Не знаю, не даўмецца мне ніяк,
як знюхаліся, спеліся так хутка
зладзюга, п'яніца, на вёску ўсю лайдак,
нямецкі паслугач і прастытутка.

Яны абвінаваўцамі былі,—
тваіх тады ніхто не слухаў сведкаў.
Няволі пяць гадоў, яны прайшлі,
кляйма не сцёрлі, знак астаўся едкі.

Кляймо ляжала на душы тваёй,
яно і межы часам парушала...
Ты заплаціў заўчаснай сівізной,
той платы аказалася так мала.



## ТРЫВОГА МАЯ

Ад песімізму далёкі я,
мне з панікёрам не спецца,
толькі мацнее трывога мая:
Айчына — у небяспецы!

Стануць, вядома, мяне папракаць
лакіравальшчыкі-спецы:
«Як можна ў год юбілею сказаць:
«Айчына — у небяспецы!»

«Як гэта,— скажа аматар прыкрас,—
хіба такое магчыма:
мірнага атаму, космасу час
і ў небяспецы Айчына?!»

У небяспецы! — кажу я душой.
У небяспецы! — душой паўтараю.
А пагражаюць краіне маёй
бюракратычныя зграі.

Мае ключы ад казны казнакрад,
маюць бурбоны пячаткі,
дураць народ на вышынях пасад,
творчыя душаць пачаткі.

І бракаробаў тавары ідуць,
свет безгустоўшчына запаланіла,

п'яніцы
розныя гадасці п'юць,
панараджалі дэбілаў.

Вочы б не бачылі, ды не дасі
думкам сваім спачыну,
не прытупляйся, пяро,— нясі
боль мой за лёс Айчыны.

Веру ў высокія сцяг наш і герб,
дзёрзка жадаю змен дабрачынных.
Непаржавелыя молат і серп
выратуйце Айчыну!



* * *

Мялеюць рачулкі і рэкі,
на спадзе брусніцы ў бары.
Спусцілі ваду, чалавекі,
і плачам цяпер, як бабры.

І, нам спачуваючы, неба
парою так шчодра ліе,
што к долу прыбітага хлеба
як след і падняць не дае.

Як справіцца нам з непагодай,
дзе ўзяць залатых нам дзянькоў?
Не церпіць, не церпіць Прырода
падземных сляпых скразнякоў.



## У ЗАГАРАДНЫМ ЛЕСЕ

О вы, мяшчане і мяшчанкі,
што гэтак цягне вас сюды,
дзе пасля вас — адно бляшанкі
ды дзікіх вогнішчаў сляды?!

Дзе вы ўзялі такую моду:
каб жываты ядой набіць,
ісці ў маўклівую прыроду
і ўсё жывое там губіць?!



* * *

Не забывай, мой сын,
дачка, не забывай,
што вы — мае найкроўныя нашчадкі,
запавятаю вам бацькоўскі край,
вытокі нашы, нашы ўсе пачаткі.

Не проста вы прадоўжыце мой род —
вам з абавязкам аддаю і права,
бо вы — непачужэлы мне народ,
бо вы — мая мяжа, мая дзяржава.

Не проста вы — працяг, вы —
мой прасцяг,
і вышыня мая вы, і вяршыня,—
нясіце нашу спадчыну, як сцяг,
шануйце, як найпершую святыню.

Сказаў — шчымлівы смутак я адчуў,
і хваляванне сціснула мне грудзі.
Такімі будзеце, як я хачу,—
і лёгкай мне мая зямелька будзе.



## СУЧАСНІКУ

Не дзеля рапарту, не дзеля ордэна
добрыя дзеі свае паскарай,—
хай маладзее
старонка родная,
хай багацее
любімы край!



## СЫЦЕНЬКІМ

Гаворыце: «Правесці трэба час...»
Ілюзія, што вы яго праводзіце!
Вам весела, бо сыты ёсць папас,
дзе нават думка не гасцюе ў вас,
што астаецца час, а вы праходзіце.



* * *

О юныя! Чытайце класіку —
вам зразумець яна паможа:
быць знішчана каханне можа
і грубым ботам, і абцасікам.



* * *

Шчасце ці кара —
крылы Ікара?

Крылы Ікара —
дзёрзкая мара;

жы́цце без мары —
горай ад кары.



* * *

Сіла Антэя,
дух Праметэя...
Што было потым —
вы ці ідэя?



* * *

Сеяць разумнае, добрае, вечнае
сейбіты выйшлі з натхненнем.
Цяжкае поле душы чалавечае:
часта няўдобіца, часта каменне.

Што ж,
хай не кожнаму зернейку суджана
там узысці, апынуцца асновай,—
поле бязмежнае ўсё-ткі абуджана
ад страшна доўгае спячкі зімовай...




Каханне — гэта не ў руках сініца,—
непараўнаныя яго дары;
жыццё, прашу (багатаму не спіцца):
кахання скарбу ты не забяры!



* * *

Лавай падалі словы твае,
спапяляючы сад маладзюткі...
Як нам саду таго нестае,
дзе пачуццяў цвілі незабудкі!
Лавай падалі словы твае.

Вулканічны праліўся пажар.
Вецер дзьме ў недарэчнай пустэчы.
Як суняць невыносны цяжар?
Як змірыцца з пякельнай галечай!
Вулканічны праліўся пажар.

Боль свой ціха, цярпліва нашу.
Рве палоску туману ранак,
ахінае, бінтуе душу.
І крывавіць гарачая рана.
Боль свой ціха, цярпліва нашу.



Каханне маё
                не варта
вылічваць на ЭВМ,
тым болей — падводзіць
пад дзеянне: двойчы два...
Тлумачыць табе — балюча:
ты некалі так умела
сэрцам паслухаць сэрца,
а ў ім — і любоў, і адданасць,
пяшчота, і апантанасць,
і ненатольная прага —
у рытме яго трапяткім.
Не ведаю, што замінае
расстацца табе незваротна
з алгебраю сумненняў
і з арыфметыкай іх.



* * *

Помню.
Ад'ехаўшы, мне ты пісала адразу —
добра і лёгка ішлося
мне да ўсяго, чым жыла ты,
сцежкамі блізкіх радкоў.
Зараз паехала ты — і ні слова.
Як табе там?
Часта ў дарог я пытаўся — дарэмна;
рэчкі, палі і дубровы
вестак не маюць таксама.
Пташак, наіўны, пытаўся — не знаюць,
цэлай планеты Зямлі запытаўся — не чула,
к сонцу і зоркам звярнууся — не знаюць,
як табе там.
Што ж ты маўчыш?
Ты не была раўнадушнай, замкнёнай ніколі.
Як зразумець, пераджыць як
такое маўчанне?
Я ж пасылаю табе свае пісьмы
штодня і штоночы
(адрас дакладны — Табе),
ў іх падрабязна дзялюся з табою,
як я жыву і кахаю,
ў кожным пісьме сваім я паўтараю:
«Як табе там?..»
О, няўжо да цябе не даходзяць цяпер
мае пісьмы?!



* * *

Не адышлі жаданні,
мары не пастарэлі.
Бачыш, маё каханне,
маладзічка арэлі?

Чуеш, якая ціша,
як салаўі запелі?
Майская ноч калыша
маладзічка арэлі.

Доля мая — каханне,
як без цябе сумую!
З мараю пра спатканне
летую і зімую.

Шчасце маё — каханне,
мне падары спатканне.
Будзе пад Шляхам Млечным
наша імгненне вечным.



* * *

Усходы ёсць у згоды,
ёсць у кахання цвет.
Дай, долечка, пагоды
на гэты гожы свет!

Згінь ты, сухмень сумнення,
згінь ты, мароз хлусні,
у небе захаплення
грэй, сонца чысціні!

Мацнейце, згоды ўсходы!
Квітней, кахання свет!
Твой непаўторны водар,
як непаўторны цвет.



* * *

Я ад смагі прападаю
без цябе.
Сэрцам прагна прыпадаю
да цябе.

Не пражыць, не наталіцца
без цябе.
Век мне суджана хіліцца
да цябе.

Ты — крыніца прыгажосці
для мяне.
Ты — крыніца маладосці
у мяне.

Да цябе душой хіліцца
буду я,
невычэрпная крыніца
ты мая.



* * *

Не, цябе не праміне
ўся мая пяшчота,—
толькі думай пра мяне,
думай толькі пра мяне
светла, без маркоты.

Сонейка ў тваім акне,
а ці месяц ясны —
думай часта пра мяне,
думай усёчасна.

У прасветленай вясне
і ў імгле зімовай
стань малітваю ты мне,
будзь маёй замовай.



## ПАСЛЯ РАЗЛУКІ

Кідалі
у полымя
рукі
астаткі тугі і дакукі,
астаткі
тугі
і дакукі.
Шапталі гарачыя губы
ласкавае: «Любы мой! Любы!..»
Твой любы!
Пяшчоціўся шэпат адданы:
«Каханы мой! Родны! Жаданы!»
Жаданы!
Якія гаючыя словы!
Ад іх я — увесь — нібы новы.
Я новы:
каханы,
жаданы!
Не знаў бы слоў гэтых імклівых —
ніколі б не быў я шчаслівы.
Шчаслівы!



* * *

Мне імя тваё шапталі
беларускіх рэчак хвалі,
шумналістыя лясы,
ніў жытнёвых каласы.

Мне імя тваё складалі
у смузе-блакіце далі,
набліжаў марскі прыбой,—
жыў усюды я табой.

Дзе я толькі не бываю,
я цябе не забываю:
мілы вобраз паўстае —
мне спакою не дае;

днём і ўночы, днём і ўночы
бачу я кахання вочы,
ручаінкаю жывой
звонка льецца голас твой.



* * *

Са мною адбываецца
цудоўны неспакой —
нішто не забываецца,
што звязана з табой:

ні ночы, ночкі зорныя,
ні сонечныя дні;
завуць мяне чароўныя
вачэй тваіх агні.

Са мною адбываецца,
што ад цябе прыйшло:
глыбока адбіваецца
высокае святло.

Над сцюжаю, над слотаю
на крылах я лячу,—
табою, тваёй пяшчотаю
жыву і жыць хачу.



* * *

Той крыўдай, што была забылася,
згубілася за даўнасцю гадоў,
знячэўку сэрца зноў забілася —
утаймаваць я не гатоў.

Няўжо магла ты явай-казкаю
стаць не маёю — быць з другім
і ўцешвацца ягонай ласкаю,
і зваць адзіным, дарагім?!



* * *

Ноч. Ні месяца, ні зорак
над зямлёй.
Пераплыў я смутку мора —
я — з табой.

Ясны — месячны і зорны —
мой настрой,
мне прывольна, мне прасторна:
ты — са мной.

Ноч. Ні месяца, ні зорак
у акне.
Назаўжды знікае морак:
ты — ўва мне.

Ясны — месячны і зорны —
мой настрой:
для мяне ты стала зоркай
і зарой.

Усміхаецца світанне
нам з табой,
маладое сонца ўстане
над зямлёй.

Свет прыгожы, свет бясконцы
у акне.
Стала ты праменным сонцам
для мяне.



* * *

Калі гавораць вочы нашы
паміж сабой усхвалявана,
нішто-нішто з таго не страшыць,
што нам жыццём наканавана.

Як нашы рукі ласку дораць
у парыванні несціханым —
нячутны голас мне гаворыць:
якая радасць — быць каханым!

А вусны горача сальюцца —
любві прыліў мяжы не знае,
бо сэрцы ўзрушанасцю б'юцца,
бо прага шчасця нас яднае!



* * *

Не рублямі, не гадамі
мы багатыя з табой —
той, што свеціцца над намі,
зоркай, вечна трапяткой.

Без адзінай гэтай зоркі
сонца б цьмянае было,
быў бы век самотна-горкі
і журботнае — чало.



* * *

З табой бываю я маўклівы,
каханая,— я так хачу
у часе здрадніцка-імклівым
даўжэй твоі мілы голас чуць;

тваёй удумлівай гамонкі
трымаць хачу жывую ніць
і слухаць цішыню,
што тонкай
струной узвышана звініць.

Калі ж дарога аддаляе,
к табе лячу у думках я,
цябе я поруч уяўляю,
з табою толькі й размаўляю,
з табою, любая мая.



* * *

Той агонь, што даў мне прашчур,
для цябе я берагу;
я з табой — цябе я лашчу,
быць халодным не магу.

Ты са мной — і мне здаецца:
створана ты для мяне,
светла-светла мне жывецца
у адной з табой вясне.

Перад зоркай Мілавіцай,
прад світальнаю зарой
заклінаю я, твой рыцар,—
будзь навекі ты маёй.



* * *

Ля цябе я адчуваю
маладым сябе і юным,
сэрцам песні напяваю:
не змаўкаюць шчасця струны.

Ля цябе я адчуваю,
як душой расту імкліва.
Я глыбока спачуваю
закаханым нешчасліва.

Белы свет адпачывае,
ночкаю закалыханы.
Я міжволі спачуваю
ўсім-усім незакаханым.



* * *

У майго кахання —
многа шчыравання,

многа ціхай ласкі
і нікольі — бляску,

і нікольі — шуму,
у кахання — думы.

У майго кахання —
лёгкае дыханне,
цяжкая дарога,
вечная трывога.



* * *

Як рады я, жыццё,
што старасць — за гарамі,
што ты ўпрыгожыла маё быццё
не золатам, не дробнымі дарамі —
каханнем. Як удзячны я, жыццё!

Каханне — гэта не ў руках сініца,—
непараўнаныя яго дары;
жыццё, прашу (багатаму не спіцца):
кахання скарбу ты не забяры!



* * *

Нам небам дадзена так многа —
суладдзе душ;
ты толькі лішняй насцярогай
суладдзя не паруш.

Асілю цяжкую дарогу:
я дужы, малады,
ты толькі лішняю трывогай
не наклікай бяды.



* * *

Шараватыя аблокі
паплылі наўкруг;
робіць жнівень мой высокі
развітальны круг.

Над зямлёю, над смугою
цёплых крыл узмах...
Над маёю галавою
жнівень — вольны птах.

Не хавайся за аблокі,
пачакай, пастой,
журавель ты мой высокі —
ясны месяц мой,

час майго выратавання,
ты — вяртання час
невымоўнага кахання,
што бывае раз,
толькі раз.



* * *

Тояць сілы чароўнае сховы
        твае ціхія словы.
        «Мой пяшчотны!..» —
адчуваю: мой боль незваротны.

Тояць водар вясновы, мядовы
        твае цёплыя словы.
        «Мой каханы!..» —
я ў квітнеючым садзе духмяным.

Вышыні, чысціні тояць сховы
        твае светлыя словы.
        «Мой жаданы!..» —
бачу
        зорамі свет разатканы.
        «Мой адзіны!..» —
чую музыку крыл лебядзіных.




Бывае чалавек з душой пустой, як вецер,
а рад бы лёсы вырашаць у свеце.
Дык памятайце:
такім хоць бы улады не давайце.



## КІПЦЮРЫ

Каб нажывацца, хіжы свет
шалёна зброю памнажае
і сілай «Першынгаў»-ракет,
«вайною зорнай» пагражае.
Ў заакіянскай старане
ужо, глядзі, апоры мала —
на еўрапейскі кантынент
прыйшлі ракеты капітала,
дзе рэваншысты з той вайны,
з той гітлераўскай школы,
і проста — бонскія чыны,
і натаўскія колы.
А там — палітыка не ў лоб —
яна прайшла метамарфозу,—
там на ўзбраенне ўзят паклёп:
маўляў, чырвоная пагроза...
Ды як, драпежнік, ні хітры,
дарма туману напускаеш,—
у капітала — кіпцюры,
сумленны свет не ашукаеш.



## ПЕРАЎВАСАБЛЕННЕ

Ну, трэба ж гэтак навучыцца
аблічча ўласнае мяняць:
з авечкі можа стаць ваўчыцай,
з ваўчыцы зноў авечкай стаць!..

Тут не сакрэту будзе ўцечка,
адной начальніцы — сюрпрыз:
глядзіць уверх яна авечкай,
але ваўчыцай — зверху ўніз...



## ІТАЛЬЯНСКАЯ ПРЫТЧА

Жыў багацей (дабро — ракою
лілося), меў ён — што хацеў,
адно не знаў нідзе спакою,
бо прыгажуню жонку меў.
З бязмежнай рэўнасцю сваёю
не мог ён справіцца ніяк
і, ўрэшце, неразлучны з ёю,
аслеп на вочы, небарак.

Цяпер ад жоначкі увішнай
не адыходзіць ні на крок,
а тут, як кажуць, трэці лішні
з'яўляецца, нібы знарок...

Жанчына ў сад адвесці душу
ідзе, а следам — верны муж.
Яна і кажа: — З лепшай грушы
пакаштаваць хачу я груш.

— Ты загадай — і за хвіліну
даставяць слугі, ці ж не так?
— Не, я сама сарваць павінна,
інакш будзе не той смак.

Сляпы паверыў жонцы гожай,
на дрэва ўзлезці ёй памог
і ствол абняў ён, каб — крый божа! —
ўзабрацца чорт які не змог.

Тым часам жонка
панацэю
прымала — груш гарачы град
лупіў сляпога багацея,
аж закрычаў ён на ўвесь сад:

— Злазь, хопіць груш!
— Не,— кажа жонка,—
пладоў жаданых я хачу
дастаць з галінкі самай тонкай...
Яе хлусню Пятро пачуў.

Узяў святы за локаць бога:
— Бог, дай распусніцы урок:
ты ад яе пазбаў сляпога,
вярні няшчаснаму ты зрок.

І бог сказаў Пятру святому:
— Глядзі, я зрок вярну сляпому,
але сухенькаю з вады
жанчына выйдзе, як заўжды.

Калі сляпы знячэўку ўбачыў
усё як ёсць на дрэве тым,
успыхнуў гневам ён гарачым:
— Як здрадзіць мне пасмела ты?!

А жонка мовіла суцешна:
— Раўніўчык мой, не будзь тупым;
каб асталася я бязгрэшнай,
да смерці быў бы ты сляпым.



## У ПАЛОНЕ ШАБЛОНУ

Фатограф Агуркоў
рабіў партрэты
перадавікоў,
рабіў па службе — для газеты.
Там працаваў у штаце ён,
хаця ў творчым стылі меў шаблон.
Усё ў яго ішло даволі гладка:
спачатку
ён ставіў перадавіка,
і ўжо сама ўзнімалася рука
пад аб'ектывам артыстычна,
рука паказвала прывычна,
куды таварышу глядзець,
каб на паперы добры выгляд мець.
Пасля ўсміхнуцца ён дапамагаў,
усмешку словам вострым вымагаў.
І аставалася далей
сказаць: «Вось гэтак, гэтак,— весялей!»
Папстрыкаў — і гатова:
ў газеце будзе фота Агуркова.
І гэтак жа, як кожны раз,
у маяка ўсе зубы — напаказ...
І вось фатографу заказ —
партрэт перадавой даяркі
Пятровай Даркі.
...На ферме Агуркоў. Знайшоў Пятрову ён,
паклапаціўся пра харошы фон,

пачаў здымаць, ды тут асечка:
як ні жартуе Агуркоў,
стаіць даярка, нібы свечка,
і не паказвае зубоў.
Ён абураецца
і лінію сваю вядзе,
пытаецца:
— Усмешка дзе?
— Зубоў, сынок, няма.
— Дарма не ўставіла, дарма.
— Не мела часу, ну — такой бяды...
— Тады заві ты ўсіх сюды...
Дзеля параду-выстаўкі зубоў
наш Агуркоў на ўсё гатоў.
Здымае для газеты ён не Дарку,
а іншую зусім даярку,
адсталую, скажу між намі,
затое з ідэальнымі зубамі.



## СЛЯПАЯ ЛЮБОЎ

Рос сынок у мамачкі,
меў на шчочках ямачкі,
носік меў курносенькі,
мяккія валосікі;
мамачка дзівілася:
сонейка ўрадзілася,
урадзіўся месячык —
шчасцейка Алесічак.
Быў ён самы блізенькі,
стаў расці капрызненькі.
Стала «гнаць» матулечка
рублікі сынулечку,
шыць яму, пястунчыку,
ў год па тры касцюмчыкі:
«Хай сыночак родненькі
будзе гожы, модненькі,
клопату не ведае —
радасці адведае...»
Вырас сын у мамачкі
і смяецца з рамачкі,
з рамачкі зашклёнае —
фота там ягонае:
ён, як стаў на ножанькі,
пайшоў у дарожаньку,
напаткаў каханачку
і забыў пра мамачку.



## СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ

Калісьці на фарфоравым заводзе
дырэктарам стаў злодзей;
па густу кадры падабраў:
ён ля народнага дабра
паставіў свата-тарбахвата
і швагра, жончынага брата,
што ўмее красці зухавата,
яшчэ і братаву дачку,
нячыстую таксама на руку,
яе, канечне, мужа, гэты муж
звівацца ўмее, нібы вуж.
З тае пары пайшлі у бок адзін
і ўлік, і збыт,
і транспарт, і бензін...
У злодзея надзённыя турботы
сыходзіліся ў плоскасці адной:
ён несуноў лавіў на прахадной,
сабе ж дабро вывозіў праз вароты.
Тым, хто ахоўвае закон,
ішлі трывожныя сігналы,
але у шуме-тлуме дзён
яны глушыліся памалу:
пагоду ладзілі падпольныя сервізы —
прыемныя сюрпрызы...
Народ вышэй пісаць пачаў,
а там, вышэй, усе маўчалі:
там казнакрада-лаўкача

на цёплую пасаду прызначалі.
(І там сядзелі лоўкія дзялкі,—
відаць, быў час такі...)
Народ пісаў яшчэ вышэй,
адтуль усе лісты спускалі
ніжэй, ніжэй, яшчэ ніжэй
і ўрэшце казнакраду аддавалі...

Змяніўся час, і ўстаў рабочы,
сказаў на сходзе праўду ў вочы.
За тое тры вымовы мае,
ужо і зменам ён не рад...
Ці па заслугах атрымае
непераможны казнакрад?



## КНІГА, ВЕЦЕР І ПАСТУШОК ПЕЦЯ

Забыў на пашы Кнігу Пеця-пастушок,
яна там на траве начуе.
І дзіва: Кніга чыйсьці голас чуе:
— Што, пані, падабаецца лужок?
— Вы да мяне? — спытала Кніга ціха.
— А да каго ж!
— Дык жа не пані я, а — Кніга.
— Па-мойму, адзін чорт:
святкуеш — не працуеш!
— Хто вы такі?
— Хіба не чуеш? —
І Кнігу шарпануў тут хтосьці
у дзікай злосці.—
Я — Вецер. Як магла мяне ты не пазнаць!
— Пазнала я. І ты павінен знаць:
мая работа не заўжды відаць,
але ж няма і ў тым сакрэту,
што без мяне было б нялёгка свету.
— Не выдумляй! — злуецца Вецер
і зноў яе як шарпане! —
Дарэчы трапілася мне!..
Ды тут прыбег, на шчасце, Пеця,
падняў ён Кнігу, горне да грудзей:
«Цябе я не пакіну больш нідзе!»

Бывае чалавек з душой пустой, як вецер,
а рад бы лёсы вырашаць у свеце.
Дык памятайце:
такім хоць бы улады не давайце.



## БАЙКА ПРА БАЙКУ

Спаткаўся неяк з Байкай Верш лірычны
і кажа ёй усхвалявана-зычна:
— Сястра мая, о дай мне зразумець,
як ты такі характар можаш мець?!
Без падкавырак, шпілек жыць не можаш,
людзей бянтэжыш, чуткі множыш,
расказваеш — на нешта намякаеш,
у былях, небыліцах соль шукаеш;
Табе ўсё гэта на якое ліха?!
— О браце мой,— сказала Байка ціха,—
павер, каб свет пакінулі хваробы,
замоўкла б я.
— Сястра мая,
а час які выдатны!..
— Так, час выдатны, ды мікробы
жывучыя на глебе на прыдатнай.
— А я красу нясу, і апяваю,
і ў людзях абуджаць дабро не забываю.
— Друг мой, табе я зычу ўдачы,
адно дадаць хачу я:
сляпы
паэзіі не ўбачыць,
глухі
паэзіі не ўчуе,
і покуль ёсць у свеце душы
сляпыя, подлыя, глухія,
даваць пілюлі часта мушу —
такая ўжо мая стыхія.



## БАРБОС

Барбос, начальнік фірмачкі адной
лясной,
пачуў, што Льва цікавіць дысцыпліна,—
усе паперы ў кабінеце кінуў
і стаў на прахадной,
там ён пачаў сачыць да поту,
хто як з'явіўся на работу.
Каню, свайму намесніку, сказаў
завесці кнігу асабістых спраў,
камісій розных наствараў,
каб правяралі, каб сачылі,
каб болей дакладных страчылі.
Хто як жыве, Барбосу напляваць,
ён думае, галоўная спружына —
суцэльная на фірме тузаніна;
Калі ж кантроль — умець хвастом віляць.
Дачуўся пра Барбоса раптам Леў,
ён не чакаў такога перакосу:
«Загубяць справу гэткія Барбосы!»
Леў перагібы супыніць паспеў:
газеце даручыў «Лясной»

тлумачыць ясна і аператыўна,
што дысцыпліну нельга прымітыўна
рабіць казённа-паказной!
Убачылі б Барбоса вы цяпер;
як лёгка, лоўка тактыку мяняе!
За «недавер» Каня скланяе,
на сходах выступае за давер.
Лізнуць гатоў, каб далажылі Льву,
што на плячах ён носіць галаву.



## КАЗЁЛ І САЛАВЕЙ

Да траўкі, да кары бязмерна ласы,
Казёл зубамі браў зямлі дары
і набіваў жывот свой.
А тым часам
спяваў Салоўка весела ўгары.
Казёл прыслухаўся:
«А што, няблага...
Дык нездарма ўсе хваляць Салаўя!»
І ўжо Казла бярэ свая адвага:
«А паспрабую заспяваць і я!»
Напружыўся як след — адно замэкаў:
Казлу прырода дару не дала...
Ну, пазайздросціў птушцы, недарэка,
чужая слава звабіла Казла.
Ды каб паразумеў! Ды каб жа ціха
суцешыўся травою, грыз кару,
а то ж і зноў, як на якое ліха,
ён голаў задзірае ўсё ўгару
і раздражнёна тупае нагамі,
і Салаўя перакрыўляе ўсяк,
гатоў яго дастаць, бадаць рагамі,
і гэтым суцяшаецца так-сяк...

---

Бывае зло — ўсяго чакай ад зла! —
з характарам вось гэткага Казла.



## ЛІСІНЫ РЭПАРТАЖ

Чытаючы Лісіны рэпартаж,
ад смеху Вожык пакаціўся аж:
— Тут пішуць пра лясгас пра наш.
— Няўжо так смешна? — жонка запытала.
— Вось пачытай, што Ліска накатала.
Дарэчы,
і ты была на той сустрэчы,
калі вучоны госць Барсук,
які абараніўся ад навук,
адно ківаў бясконца галавой —
расказ ён слухаў мой,—
а напісалі, быццам ён даваў парады,
якім усе мы вельмі рады.
— Дзівак ты,— Вожыку сказала жонка,—
тут разбірацца трэба тонка:
каб напісалі так, як ёсць,
што галавой адно ківаў наш госць,
усе смяяліся б тады,
а так — рагочаш толькі ты.



## СПЯВАК І МОДА

На сцэну выбег малады спявак,
і гучна музыка зайграла.
Ды вось пачуўся галасок няўдалы, вялы.
Смяецца зала: скуль такі дзівак?
Чаго на сцэне ён, не разумее зала.
Пускае жэсты ў ход эстраднік малады.
Ды як паможаш голасу рукамі?!
Гамоніць зала, ён давай тады
хадзіць пад музыку эфектнымі рыўкамі.
Ды зала недаўменная рагоча:
яна ж не фізкультуры — песень хоча.
А ўжо і прытанцоўвае спявак,
здаецца, ўсё ў яго ў рабоце,
ужо ён, бедны, ўвесь у поце,
пачырванеў, нібыта рак.
Ды зала спевака знішчальна абсвістала.

---

Запомні, брат, і малады, і сталы:
спяваць выходзіш — голасам бяры,
калі цябе прырода адарыла;
не маеш голасу — няма бяды,
але тады
не траць дарэмна сілы.



## АФАРЫЗМ І АБРАКАДАБРА

Сустрэлася Абракадабра з Афарызмам
(вядома, праз сваю яна глядзела прызму):
— Вось я,
прыяцелька твая,
скажу: хоць ты і мудры, ды не разумееш,
што ты як след і жыць не ўмееш,—
цябе шукаюць, і з табою раяцца,
і на цябе абапіраюцца,
няўжо табе не прыклад — мой спакой?
Ды Афарызм адно махнуў рукой.
Пасля хвалілася Абракадабра ўсім,
маўляў, дала яна парады Афарызму
і, ўласна кажучы, урокі аптымізму —
і ён шчаслівы стаў зусім...



## ЛЯСНЫЯ НАВІНЫ

Здаля, з-за рэчкі, у Вялікі Бор
к Мядзведзю завітаў Бабёр.
Там адбылася гутарка жывая.
І напісала «Праўда Баравая»,
што ў гонар госця ў баравой сталоўцы
абед прайшоў у цёплай абстаноўцы.
Узяў Мядзведзь газеты свежы нумар,
прабег вачыма: «Вось дык гумар!
Пісалі гэта, пэўна, ачмурэўшы...
Няўжо мой госць паедзе не паеўшы?
Няўжо, як прывядзеш яго ў сталоўку,
халодную там створыш абстаноўку?»



## БЛІЗАРУКІ ЛЕЎ

Быў Сабака памочнік у Льва,
друг выдатны,
а галоўнае — кемлівы, здатны,
пра такіх гаварылі кругом: — «Галава!»
Ну а Леў розум дробненькі меў,
а рабіў ён усё напаказ;
неяк раз
паказальную дацъ загадаў ён вячэру.
Там накрылі на стол аж праз меру:
ўсё было — ад ікры, балыка
да птушынага аж малака,
хоць з прадуктамі ў лесе было тугавата.
Ну, вядома, гасцей насклікалі
багата,
іх прамовай вітаў гаспадар,
меў ён «дар» —
у кішэню лазіць па слова...
Госці елі, пілі,
адпаведна сталу ўсе іх тосты былі,
надта пышныя тосты;
Лёва наш дасягнуў тытанічнага росту,
ён ужо і вялікі мысліцель,
і філосаф, і слаўны вучыцель,
тэарэтык, зусім геніяльны,
а таварыш які абаяльны,
як ён мудра бяседу вядзе,
не знайсці больш такога нідзе.

Не сыходзіць ніяк з языкоў
Леў-мысліцель,
філосаф, вучыцель
і вялікі, вядома, карміцель,
зноў і зноў абаяльны,
зноў і зноў геніяльны,
зноў і зноў
ён — аснова асноў.
Тут Сабака і кажа Льву ў самае вуха:
— Леў, ты толькі паслухай:
як жа церпіш ты столькі маны?!
Дастаткова
аднаго твайго слова
(нават жэста!), каб змоўклі яны.
Тут наш Лёва укінуўся ў гнеў:
— Кепска думаеш, Пёс, пра мяне!
А таму і з вачэй маіх — прэч!
Вось у лесе якая здарылася рэч.



## ПРА СВАЯКА, СВАЯЧКУ І ЗВЫЧАЙНУЮ КАЧКУ

— Ну што табе даць? — у турботах сваячка
свайго сваяка гарадскога пытае.—
Зарэзала б качку —
не выпадае:
занадта худая,
і гусак таксама не рэжу цяпер я:
худыя ўсе — косці ды пер'е,
крыху падкармлю, а тады забярэш.
Сваяк гаварыць аж не можа ад смеху
ды кажа:
— Вядома, нічога не рэж,
хіба я к табе па прадукты прыехаў?
Другі раз наведаў сваячку сваяк,
прывёз падарункаў,
ласункаў
рукзак,
дравец накалоў ён, і дрэўцы садзіў,
і ў лес па грыбы са сваячкай хадзіў,
а толькі прыходзіць пара ад'язджаць —
пытае сваячка:
— Ну што табе даць,
каб было на вячэру?
Зарэзала б качку, дык здохла ж, халера,
а гускі здзічэлі
і ў свет паляцелі,
ужо выбачай, што няскладна ўсё так.

Паехаў сваяк.
А неяк у горад яна завітала,
прывозіла яблычкі — утаргавала —
і не абышла сваяка, як-ніяк,
шчыруе,
частуе
сваячку сваяк.
Калі павячэралі, кажа сваячка:
— А зараз пара мне цябе пакідаць.
Сваяк усміхнуўся, бо ўспомніў пра качку,
і кажа:
— Ну што табе даць?
Даў бы каўбаскі — не выпадае:
занадта худая.
— Яна ж не паправіцца, пойдзе й такая.
— Пойдзе-то пойдзе,— такі быў адказ,—
ды гастраном зачынілі якраз.



## ВІНАВАТЫ... ЛЁД

Ваду са студні Клава даставала,
ступіла нейк не так на лёд,
упала
і нагу, нябога, паламала.
Тут раззлаваўся на яе Фядот:
— Вось будзеш, разгірака, зараз клыпаць,
няўдаліца! —
муж лаецца,
крычыць,
заміж таго каб доктара паклікаць,
пясочкам каля студні лёд пасыпаць.
А жонка і не войкае — маўчыць.
Яе ж усё-такі лячыць
адвезлі ў райбальніцу.
Туды праз дзень патрапіў і Фядот,
ён паламаў сабе рабро, ключыцу
непадалёк ад роднай хаты.
А вінаваты
той жа лёд.



## ЛЯНІВЫ БОЛЕЙ ТРАЦІЦЬ СІЛЫ

Пад вечар дзядзька Герадот
паліць сабраўся агарод,
які ажно гарэў ад спёкі,
узяў у рукі два вядры,
паплёўся ціха да вады,—
раўчук паблізу быў там неглыбокі.
Ды раптам ветрыкам прырода
дыхнула — і над агародам
сівыя хмаркі паплылі гурмой.
У Герадота — радасны настрой.
«Ну,— думае,— парадак,
і паліваць не трэба градак,
бо зараз дождж пальe»,—
сеў, пакурыў,
а дачакаўся грому —
пустыя вёдры ўзяў свае,
пашкандыбаў дадому.
Ну а дажджу і не было,
і ўсё смяялася сяло:
зноў неўзабаве Герадот
паплёўся паліваць свой агарод.



## ЦУД

Той цуд зацьміў усе дзівосы
(ён большы быць ужо не мог):
з высокіх ясных веснавых нябёсаў
на грэшную зямлю спусціўся бог.

Зямлян сабраў вакол вяршыні горнай.
— Як вы жылі? — спытаўся бог святы.
Суцэльны стогн пайшоў ад масы чорнай:
— Чаму ж так доўга не прыходзіў ты?

Крыві нявіннай столькі пралілося!
Цары з нас дралі скуру і паны.
Цяпер чыноўнікаў так многа развялося,
а не святыя ж — грэшнікі яны.

— Вялікі божа! Так, мы не святыя,—
чыноўнікі сказалі.
— Дзе ўжо нам
святымі быць:
апосталы і тыя
грашылі,
пэўна, знаеш ты і сам...

— Ты чуеш, бог?— апосталы шапнулі.—
Ты толькі ім, нахабным, волю дай...
Нас нездарма бязбожна папракнулі,
яшчэ, глядзі, прыцягнуць да суда!

Падумаў бог, паважны, безграхоўны:
«Свет грэшнікаў, і праўда, немалы;
калі як след судзіць, не павярхоўна,
дык можа ў пекле не хапіць смалы».

Падумаў так і адказаў нарэшце:
— Далёка мы зайшлі ужо, відаць.
Суд пераносіцца да новага прышэсця.
Грахі давайце працай выкупляць.



# ЭПІГРАМЫ І ЭПІТАФІІ

## КАНСЕРВАТАР

Хаця жыццё кіпіць кругом,
ісці наперад вымагае,
дзе трэба зрушыць рычагом —
ён толькі лозунгам махае.

## БЮРАКРАТ

З акладам ладным бюракрат
сядзіць, ён дужа крэслу рад.
Дадуць заданне бюракрату,
а ён сапхне на плечы штату.

## ЭПІТАФІЯ КАЗНАКРАДУ

Спакойна спі ты, наш харошы,
спакойна спі, наш мілы:
свае ўсе цэленькія грошы —
на помнік крадзеных хапіла.

## ГОРА-КІРАЎНІК

Не думаў — галавой ківаў,
але навукай кіраваў.
І доўга плакала навука:
«Калі мая мінецца мука?»

## КІРАЎНІК З МІНУЛАГА

Для падначаленых
мае бас,
а для начальства —
тэнар;
перад вышэйшымі
кожны раз
выцягваецца антэнай.

## ДА ЎПАДУ...

У першых ролях быў заняты,
а талент меў жа небагаты,
артыст, ва ўсіх спектаклях ён
на гледачоў наводзіў сон
ды мучыў залу да тых пор,
пакуль на сцэне не памёр.

## ЭПІТАФІЯ ЛІХАДЗЕЮ

Нарэшце ў яму той папаў,
хто ямы на людзей капаў.

## ЭПІТАФІЯ П'ЯНІЦУ, ЯКІ, ЗАКУРЫЎШЫ Ў ЛОЖКУ, СПАЛІЎ СЯБЕ, СВАЮ СЯМ'Ю І ГАСПАДАРКУ

Ты на той свет, гарэлкі раб,
забраў сям'ю і гаспадарку —
хутчэй за ўсё прыкінуў, каб
і ў пекле з гора мець на чарку.

## ШЭФЫ І ГАСПАДАРЫ

На касавіцу у калгас
прымчалі шэфы ў добры час,
а гультаі свае пасталі ў позы:
— А дзе,— пытаюць,— вашы косы?

## ДЗЕЛАВАЯ

Яна за кнігамі ў чарзе
стаяла на адной назе
(другую адтапталі ёй нагу).
— Цаню раманы,— кажа,— на вагу
ўсяго, што без чаргі за іх дастаць магу.

## САДАВІНА З-ЗА МЯЖЫ

Усё, што вырасцілі ў садзе,
згнаілі восенню на складзе.
Пасля асенняе імжы
пайшлі гандлёвыя мужы
браць садавіну з-за мяжы.

## ПАДХАЛІМ

Перад начальствам паслізнуўся —
і ад ілба аж лёд прагнуўся,
ды з радасцю падняўся ён:
такі грунтоўны быў паклон!

## ЭПІТАФІЯ ДВУРУШНІКУ

Не жыў ты, двурушнік пракляты,—
і нашым і вашым служыў.
Пасіўна і т а м не ляжы:
і богу і д'яблу там пяты
з двайной асалодай ліжы.

## ЭПІТАФІЯ ПАКЛЁПНІКУ

Ты пры жыцці амаль не спаў:
паклёпы языком кляпаў,—
хай т а м хаця спакойна спіцца,
і пастарайся нам не сніцца.

## ПОШУК СПОСАБУ

Калісьці краў —
злавілі за рукаў.
Цяпер прасцей ён грошы дастае:
пазычае — і не аддае.

## КАДРЫ НА ПЛЯЖЫ

Намесніка галоўны стрэў на пляжы
ў рабочую пару ды кажа:
— Ты што тут робіш?!
— Загараю. А вы?..
— Я? Кадры правяраю!

## БЕЛАРУЧКАМІ НЕ НАРАДЖАЮЦЦА...

Як беларучкай стала ў мамы Ала,
не можа мама ўцяміць, а дарма,
яна дачушку вечна апякала:
«Паеж, паспі, я ўсё зраблю сама».

## ЭПІТАФІЯ СВАРЛІВАЙ БАБЕ

Прымі падзяку ад сямі кварталаў:
больш не чутно тваіх скандалаў.

## ЭПІТАФІЯ ЛАВЕЛАСУ

Начамі плачуць тут, каля пліты,
твае любоўніцы, ці чуеш?
Яны не ўпэўнены, што ты
там у труне сваёй начуеш.

## СЛАВА НАЗЕ

Нага з падмогаю галоў
забіла некалькі галоў.
Галовы сталі ўсе ў чаргу
праславіць спрытную нагу.

## МЯНУШКА

Калі мянушка хлопцу дапякла,
ён бараду сваю прынёс на плаху,
бурчаў пры гэтым: «Ч-чортава мятла!..»
Ён думаў і з мянушкай адным махам
пакончыць — і не больш...
Ды там — вай-вой!—
там нешта нераблыталі на пласе:
мятлу адцялі разам з галавой!
А што з мянушкай? Тая асталася.

## ЛІТАРАТАРУ-ЗАЙЗДРОСНІКУ

Калі губа зайздросціць носу,
а вуха — воку,
кідай пяро, бяры лепш ко́су,—
мо лугам пойдзеш ты далёка...



## ХВАЛА КРЫТЫКАМ

Жыў я добра, дзякуй богу,
меў крылатага каня.
Раптам крытыкі патроху
пачалі мяне скланяць:
то павольна ехаў недзе,
то пад'ехаў я не так...
Хай і дрэнная ў газеце
слава — слава ж як-ніяк.
На Парнасе, ля Парнаса
з той пары — перапалох:
«Дзе Пегас? Няма Пегаса!
Ці ад крытыкі не здох?!»
Вестка шырыцца тым часам,
і сказаў чытацкі свет:
«Ды бог з ім, самім Пегасам!
Ці жывы хаця паэт?»
Я — жывы! Мае — прасторы,
на кані лячу, як птах,
па баках — мільгаюць зоры
ды іскрыцца Млечны Шлях.
Каб мой конь ляцеў штосілы,
каб адолеў шлях круты,
падкавалі нават крылы,
а не толькі капыты.
Стану я вядомы, можа,
і даваць му інтэрв'ю, —
славу крытыкаў памножу,
бо нічога не ўтаю.

## ЗМЕСТ

### 1

## 2

## 3



## 4

**Жуковіч В.**

Ж 86 Твая місія: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 142 с.: іл.

ISBN 5-340-00047-8

Васіля Жуковіча найбольш хвалююць духоўныя і маральныя якасці чалавека. Паэту ўласцівы гранічная адкрытасць, абвостранае адчуванне дабра і зла, выразнасць пазіцыі ў сцвярджэнні жыццёвых прынцыпаў. Пры ўсёй тэматычнай разнастайнасці зборніка ў ім дамінуюць грамадзянскія матывы: справядлівасці, чалавечнасці, сумлення.

Ж $\frac{4702120200-076}{М\ 302(03)-88}$ 47—88 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

ЖУКОВИЧ ВАСИЛИЙ АЛЕКСЕЕВИЧ

ТВОЯ МИССИЯ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ЖУКОВІЧ ВАСІЛЬ АЛЯКСЕЕВІЧ

ТВАЯ МІСІЯ

Вершы

Рэдактар Р. М. Яўсееў
Мастак А. І. Аблажэй
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 2993

Здадзена ў набор 16.11.87. Падп. да друку 29.02.88. АТ 09542. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,41. Ул.-выд. арк. 3,52. Тыраж 3000 экз. Зак. 963. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.